„Барацьба за здаровую змену павінна быць пранікнута указаннем Леніна на тое, што ей, гэтай моладзі, прыдзецца скончыць і завяршыць справу комунізма. Імення ей прадстаяць яшчэ баі за комунізм, і яна павінна сустрэць гэтыя баі здаровай, моцнай, са сталёвымі нэрвамі і жалезнымі цяглiцамі“. (Пастанова ЦК ВКП(б) аб працы піанэраргамізацый ад 2/IV 1932 году).

# БЮЛЕТЭНЬ

## Н. К. А. З. Бел. і Ін-та А.З.Д. і П.— А.М.Д.

# ЛЕТНЯЯ АЗДАРАВІЦЕЛЬНАЯ РАБОТА

## № 1

1934 г.

# ПАСТАНОВА

## Совета Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б пра аздаравіцельныя мерапрыемствы сярод арганізаваных дзяцей працоўных БССР у 1934 г.

Совет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б пастанаўляюць: зацвердзіць наступны план аздаравіцельных мерапрыемстваў для дзяцей працоўных БССР на 1934 г.

1. Па сістэме НКАховы здароўя ахапіць санаторнымі лагерамі 3. 500 дзяцей, санаторнымі пляцоукамі 2. 000 дзяцей і дашкольнымі здраўніцамі—700 дзяцей.

2. Даручыць ЦК ЛКСМБ ахапіць масавымі піанэр-лагерамі 20. 000 дзяцей, у тым ліку 2000 акцябрат.

3. Устанавіць агульную суму выдаткаў на правядзенне вышэйпаказаных мерапрыемстваў у размеры 2. 410. 500 рубл.

4. Прыняць да ведама, што санаторныя лагеры і сан. пляцоўкі, дашкольныя здраўніцы фінансіруюцца на 65 проц. сродкамі НКАховы здароўя і на 35 проц. сродкамі бацькоў і камсодаў школ.

5. Устанавіць максімальную суму выдаткаў на правядзенне масавых лагераў—1.600.000 руб. (80 руб. на ўтрыманне 1 піан.), забяспечыўшы іх праз наступныя асноўныя крыніцы:

а). Сродкі бацькоў і камсодаў школ (40 проц. агульнай каштоўнасці)—640. 000 руб,

б); Сродкі лячэбнага фонда НКАЗ (датацыя масавым лагерам)—75. 000 рубл.

в). Датацыя Наркамасветы масавым лагерам—25. 000 руб.

г). Сродкі прафсаюзных арганізацый і Соцстраха—250 тыс. руб.

Прыняць да ведама паведамленне ЦК ЛКСМБ, што чыгуначныя арганізацыі забяспечваюць фінансаванне масавых лагераў у суме 150.000 руб.

д). Сродкі грамадскіх таварыстваў і арганізацый—250. 000 р. (ТПД—100.000 рубл., Чырвоны Крыж—35. 000 рубл. Белсаюзкаса прамкааперацыі—30.000 руб., Белкоопрамсовет—40.000 руб і 45.000 руб. ад сампрамінвалідных арцеляў ЦК ДД, і Коопінстрахкасы.

е). Астатнюю суму сродкаў—210. 000 рубл. даручыць набыць мясцовым прафсаюзным, комсамольскім, савецкім, кааперацыйным і грамадскім арганізацыям праз культурна-масавыя мерапрыемствы (дадатковыя кіно-сеансы і пастаноўкі, скарыстанне паркаў, садоў, стадыенаў, арганізацыя масавых канцэртаў, правядзенне рэчавых латарэй і г. д.)

6. Устанавіць, як правіла, што сродкі ад бацькоў на лагерную кампанію не павінны перавышаць 35 % агульнага кошту утрымання дзіцяці ў санаторных і 40% у масавых лагерах.

Устанавіць дыферэнціраванную аплату у адпаведнасці з заработкам бацькоў.

7. Пры разгортванні аздаравіцельных мерапрыемстваў звярнуць асаблівую ўвагу ўсіх арганізацый на высокаякасную пастаноўку абслугоўвання дзяцей, на своечасовае прыстасаванне абсталявання памяшканняў, на палепшанне санітарнага становішча іх, на належную пастаноўку медыцынскага і культурнага абслугоўвання лагераў і высокаякасны падбор кадраў.

8. Пры падборы дзяцей у дамы адпачынку, санаторыі, лагеры, санаторныя пляцоўкі і курорты, у першую чаргу забяспечыць дзяцей работніц і рабочых вядучых галін прамысловасці, а таксама дзяцей ударнікаў, піянэраў-вучняў—ударнікаў вучобы.

9. Прыняць да ведама заяву Наркамснабжэння, што кантынгент дзіцячай аздаравіцельнай кампаніі на сезон 1934 г. вызначан саюзным Наркамснабам у колькасці 26. 000 чалавек з вылучэннем цэнтралізаваных фондаў па крупе, цукру, рыбе, на канд. вырабы, жыры і чай. Абавязаць Наркамснаб БССР вызначаныя фонды скарыстаць выключна па прамому прызначэнню

10. Нормы выдачы хлеба па індывідуальнаму снабжэнню, па масавых піянэр-лагерах, санаторных лагерах і пляцоўках устанавіць: па 500 *гр.* хлеба на дзень і для падболткі па 900 *гр.* на месяц.

Пры гэтым, устанавіць утрыманне дзяцей, выязджаючых па аздаравіцельнай кампаніі, па картках індывідуальнага снабжэння.

11. Прыняць да ведама заяву Наркамснабжэння БССР, што на першы месяц вызначаецца дадаткова: цукру—3 тоны, рыбы мясцовага ўлову—10 тон., канд. вырабаў—4,5 тоны, масла жывотн.—2,3 тоны і малака па нормах лагернай кампаніі 1933 г.

12. Абавязаць упаўнаважанага камітэта загатовак СНК СССР па БССР вызначыць на чэрвень месяц для дзіцячай аздаравіцельнай кампаніі—130 тон. бульбы.

13. Абавязаць Белкоопснаб—забяспечыць патрэбным абсталяваннем сталоўкі для лагераў (катламі, пасудай, прыборамі і г. д.)

14. Прымаючы пад увагу, што выдзеленыя цэнтралізаваныя фонды не забяспечваюць поўнасцю патрэбнасці піянэр-лагераў і іншых дзіцячых аздаравіцельных мерапрыемстваў харчаваннем, прапанаваць упаўнаважанаму камітэта загатовак даць указанне месцам аб дапушчэнні дэц. загатовак у раёне адчынення лагераў, для забеспячэння іх.

15. Прыняць да ведама, што камітэтам таварных фондаў выдзелена для лагернай кампаніі дзяцей на 20. 000 рубл. хлопчата-папяровай тканi з неабходнай колькасцю мыла. Абавязаць НКАЗ. і ЦК ЛКСМБ. скарыстаць гэта па прамому прызначэнню і прасачыць за захаванасцю адпушчанай тканi з мэтай скарыстання яе на бягучыя годы.

16. ЦК ЛКСМБ і НКАЗ да 17/V-34 г. дагаварыцца з адпаведнымі грамадскімі арганізацыямі аб скарыстанні сродкаў і аб іх удзеле ў правядзенні аздаравіцельных мерапрыемстваў сярод дзяцей і да гэтага тэрміну закончыць усе падрыхтоўчыя работы да адчынення піанэр-лагераў. Устанавіць тэрмін дзейнічання лагераў з 1 чэрвеня па 1 верасня 1934 г.

17. Прапанаваць Бел. аддзяленню „Пролетарскага турызма і экскурсій", Вышэйшаму Совету Ф. К., Бюро Соцстраха ЦСПСБ, Галоўмастацтву, БДК і грамадскім арганізацыям у 3-х дзённы тэрмін прадставіць ЦК ЛКСМБ план абслугоўвання піанэр-лагераў і інш. аздаравіцельных мерапрыемстваў па сваей лініі.

18. Абавязаць НКАЗ забяспечыць своечасовым медычным аглядам дзяцей працоўных пры адборы іх у дамы адпачынку, у лагеры, пляцоўкі, санаторыі і курорты, а таксама ўстанавіць за імі пастаянны нагляд праз прымацаванне паасобных медустаноў да лагера і вылучэнне спецыяльных мед. работнікаў для сталага медабслугоўвання дзіцячых аздаравіцельных установ (санаторыі і масавыя лагеры, санаторныя пляцоўкі і дамы адпачынку).

19. Абавязаць НК-асветы прадаставіць на час летніх канікул памяшканні школ і інвентар у сельскіх мясцовасцях для разгортвання у іх дзіцячых аздаравіцельных установ і, разам з ЦК ЛКСМБ, забяспечыць гэтыя ўстановы патрэбнымі выхаваўчымі кадрамі.

20. Прапанаваць Горкомам і Райкомам КП(б)Б—раёнаў, дзе арганізоўваюцца піанэрскія лагеры, забяспечыць канцэнтрацыю усіх сродкаў аздаравіцельнай кампаніі і кантроль за правільнасцю іх выдаткавання.

21. Прапанаваць старшыням Горсоветаў і Райвыканкомаў прыняць удзел у паспяховым правядзенні і максімальнай дапамозе ў арганізацыі і абсталяванні лагераў і правядзенні масавых мерапрыемстваў па лагернай кампаніі дзяцей працоўных.

22. Указаць усім ГК і РК КП(б)Б, усім первічным парт. арганізацыям на неабходнасць з іх боку самых уважлівых адносін, кіраўніцтва і дапамогі ў справе правядзення лагернай кампаніі піанэраў. Умяніць у абавязак сакратарам ГК і РК—праверыць гатоўнасць кожнага лагера да прыёму дзяцей.

23. Нагляд за ходам разгортвання дзіцячай аздаравіцельнай кампаніі даручыць нам. старшыні СНК тав. Саак'яну.

24. Даручыць НКАЗ і НКАсветы, сумесна з ЦК ЛКСМБ, арганізаваць праверку становішча інвентара, будоўляў і гаспадарчага абсталявання дзіцячых лагераў, маючы на ўвазе, што на гэту справу, на працягу рада год, адпускаліся сродкі і матэрыялы, устанавіць, хто з'яўляецца адказным за захаванне указаных абавязкаў.

Вынікі праверкі паведаміць СНК праз 2 дэкады.

# ІНСТРУКЦЫЯ

## па выбару месца для піанэрлагера у 1934 годзе.

### Распрацавана інстытутам АЗД і П—АМД

Лагер павінен быць размеркаваны у сухой, узвышанай, лясістай мясцовасці, на прыгорцы, абароненым ад вятроў. Адчынены бок лагера павінен быць зварочан на поўдзень—усход. Недапушчальна арганізацыя лагеру там, дзе ёсць балота, стаячая вада, небяспека малярыі. Адлегласць ад балот, торфараспрацовак і г. д. павінна быць не менш $1^1/_2$ клм. Глеба павінна быць вадапраніцаема (пясчаная з прымессю гліны), пажадана (для стока вады) з невялікім ухілам.

2. Павінна быць прадугледжана месца для некалькіх спецыяльных пляцовак: для фізпрактыкаванняў і масавых гульняў (5 *кв. м.* на 1 ч), для валейбола, баскетбола, гарадкоў і інш., разам 5—6.

3. Неабходна ўлічыць удобства шляхоў зносін да лагеру (чыгунка, шассе, рака і г. д.). Адлегласць ад бліжэйшага ў даным раёне цэнтра павінна быць не больш 40 *клм.*, ад чыгункі 3—5 *клм.*, да калгаса, соўгаса, вёскі, з якімі лагер мяркуе звязацца ў сваёй працы,—1,0—1,5 клм., ад бальніцы ці медпункта са стацыянарнымі ложкамі 2—3 клм.

4. Лес павінен быць сасновы, на адлегласці—не далей 1/2-1 клм. ад лагеру. Рака—праточная, без блізкіх стокаў ад населеных пунктаў і розных вытворчасцей.

5. Крыніца вадазабеспячэння павінна быць не далей $^1/_4$ клм. ад кухні, забяспечана ад забруджвання. Абавязковы першапачатковы аналіз вады. Дазваляецца карыстацца для піцця студневай альбо руднiковай вадой пры папярэднім бакт. аналізе альбо пры абавязковым хлараванні яе.

6. Як пры выбары месца для лагеру, таксама і перад выездам у лагер, неабходна ўлічыць эпідэміологічнае становішча гэтага месца і ўсёй акаляючай мясцовасці. Нельга размяшчаць лагер у цэнтры некалькіх населеных, блізлежачых пунктаў. З тэрыторыі лагеру павінны быць выселены асобы, якія не маюць непасрэдных адносін да яго працы.

7. Жылыя памяшканні лагеру павінны адстаяць адно ад другога, а таксама ад сталовай не больш, як на 100—200 метраў. Яны павінны быць светлымі без шчылін, забяспечаны дастатковай вентыляцыяй.

8. Памяшканні неабходна мець наступныя: спальні, сталовую, кухню з дапаможнымі пакоямі (загатовачная, моечная, кладовая, склеп-леднік), клубны пакой, белляўую, умывальную, пакой для амбулаторных прыемаў, ізалятар для хворых, цэхгаўз для хавання асабістых рэчаў дзяцей, некалькі пакояў для персаналу, уборныя. На выпадак дажджу пажадана мець навес альбо веранду.

УВАГА: пры недахопе памяшканняў, сталовая можа быць размешчана пад навесам (верандай), зачыненым з паўночнага і паўночна-заходняга бакоў, альбо для сталовай можа быць скарыстаны клубны пакой.

9. Нормы для ўказаных памяшканняў наступныя:

а) Спальні—3 кв. метры на ложак (нары забараняюцца). Адлегласць паміж паасобнымі ложкамі 0,5 кв. м., паміж радамі ложак 0,75—1 кв. м., ад сцен—0,25 м.

Спальні—паасобныя для хлопчыкаў і дзяўчынак.

10. Сталовая—0,8—1 кв. м. на кожнага абедаючага. Мэтазгодна, каб яна была побач з кухняй так, каб магчыма было арганізаваць падачу стравы праз спецыяльнае аконца.

11. У выпадку пабудовы новай кухні, яе трэба рабіць на адлегласці не менш 100 м. ад жылых памяшканняў, ззаду апошніх, але, побач са сталовай, уоддаль ад канюшняў, прыбіральняў, месца адкідаў нячыстот і г. д. Пліта павінна мець выцяжную сістэму; будуецца пліта пасярэдзіне кухні. Емкасць катлоў у літрах: для варкі супа—1, для кашы 0,5, для кіпячэння вады—0,6 на чалавека.

УВАГА: кіпяцільнікамі кухня павінна быць забяспечана асобна.

Квадратура (у метрах) кухні і дапаможных пакояў:

| | на 100 ч. | на 300 ч. | на 500 ч. |
|---|---|---|---|
| Кухня . . . . . . | 40 | 70 | 90 |
| . . . . . . . . . | 12 | 24 | 30 |
| Загатовачн. . . . . | 10 | 20 | 30 |
| Моечная . . . . . | 10 | 20 | 30 |
| Кладовая . . . . . | | | |

12. Клубны пакой—1,25—1,5 кв. м. на 1 чал.

13. Умывальны пакой неабходны незалежна ад маючыхся магчымасцей умывацца на дварэ і каля якога-небудзь вадаема. Норма ўмывальных саскоў: 1 на 20 ч.

14. Ізалятар—3 ложкі на 100 ч., плошча 3 кв. м. на ложак. Колькасць пакояў—для малых лагераў не менш 2, для буйных 3-х. Усе яны павінны быць ізаляваны адзін ад другога.

15. Амбулаторны пакой (для урача, медсястры, зубурача) У выпадку недахопу памяшканняў, у адносінах да невялікіх лагераў, магчыма і пакоі ізалятара скарыстоўваць і для амбулаторных прыёмаў.

16. Уборныя — 1 ачко на 20 ч. Адлегласць ад жылых пакояў і кухні—не менш 100 м. Асобныя для хлопчыкаў дзяўчынак.

17. Выбар месца, распрацоўка плану рамонта, прыём памяшканняў пасля рамонта (ён павінен быць скончан не пазней за дэкаду да выезда у лагер) правесці з удзелам урача.

---

## Рэжым санаторнага лагера

### Распрацавана Інстыт. АЗД і П—АМД.

Вызначаны намі ніжэй рэжым даецца на базе праведзенай намі працы у Ратамскіх санаторных лагерах на працягу двух год.

Гэты рэжым прадугледжвае вучня—піанэра сярэдняй аслабленасці, і адхілы ад яго робяцца для асоба-аслабленых з няўстойлівай вагай, частым сэрцам і значна зніжаным пітаннем. Для апошніх сонечныя ванны і купанні абмяжоўваюцца, і для іх уводз'цца дадатковы адпачынак на вольным паветры, у лесе, у цяні між другім снеданнем і абедам. Дзецям рухлівым, узбуджоным, з няустойлівай нэрвнай сістэмай часта дадаюцца трудавыя працэсы пад наглядам фізкультурніка і пад кантролем урача.

Купанне, сонечныя паветраныя ванны, фіз-выхаванне, спэц. заданні, рухавыя гульні і г. д. індывідуальна дыферэнцыруюцца урачом пры аглядах дзяцей і адзначаюцца на картках:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Купанне | „К+" дазваляецца, | К—забарон, | К—аб—абмеж. |
| Сонечныя ванны | С+ „ | С— „ | С—аб „ |
| Фізкультура | Ф+ „ | Ф— „ | Ф—аб „ |
| Труд. працэсы | Т+ „ | Т— „ | Т—аб „ |

Згодна вышэйуказанага, усе дзеці па стану здароўя падзяляюцца на тры групы, 1). больш моцныя, 2) сярэдняй аслабленасці, з слабейшыя. Гэтыя групы павінны быць ўлічаны пры разбіўцы іх па звеннях.

Фіззарадка праводзіцца усімі дзецьмі, аслабаняюцца толькі хворыя дзеці, астаючыяся, па загаду сястры альбо ўрача, у ложку.

Усялякая труднагрузка, як і працэдуры, павінна быць добра прапланіравана і прапрацавана урачом як адносна часу, так і адносна працягу і выбару месца. Труднагрузка праводзіцца толькі у прысутнасьці урача і пад яго кантролем.

Для забяспечання рэжыма неабходна арганізаваць вакол яго увагу усіх супрацоўнікаў усяго лагеру і дзіцячага калектыву.

## Рэжым дню санаторн. лагера

| Назва і змест працэдуры | Пачатак | Працяг | Канец |
|---|---|---|---|
| Вымярэнне Т° у ложку . . . . | 7. | 0.30 | 7.30 |
| Сігнал да абуджэння . . . . . | 7.30 | 0.15 | 7.45 |
| Г мнастычная зарадка . . . . | 7.45 | 0.10 | 7.[illegible]5 |

| Назва і змест працэдур | Пачатак | Працяг | Канец |
|---|---|---|---|
| Умыванне да поясу, паласк. рота, прафілакт. агляд медсястрой | 7.55 | 0.35 | 8.30 |
| 1-е снеданне . . . . . . . . . | 8.30 | 0.30 | 9. |
| Лінейка, уздым флага, паведамл. аб парадку дня . . . . . . | 9. | 0.10 | 9.10 |
| Прыем урача, праца па заданнях на гародзе, у садзе, на пляцоўцы . . . . . . . . . . . | 9.10 | 1.30 | 10.40 |
| Падрыхтоўка да сонечных ванн | 10.40 | 0.15 | 10.55 |
| Сонечныя ванны, абціранні, аблів. купанні, . . . . . . . . . . | 10.55 | 1 | 11.55 |
| Адпачынак у цяні . . . . . . | 11.55 | 0.15 | 12.10 |
| 2-е снеданне . . . . . . . . . | 12.10 | 0.20 | 12.30 |
| Вуч. клубн. піанэр-праца альбо ціхае чытанне і гутаркі у лесе на вольным паветры . . . . | 12.30 | 1.30 | 2.00 |
| Падрыхтоўка да абеду, мойка рук . . . . . . . . . . . . | 2.00 | 0,10 | 2.10 |
| Абед . . . . . . . . . . . . . | 2.10 | 0.30 | 2.40 |
| Падрыхтоўка да мертвай гадзіны туалет, мыццё ног, паласк. зуб. | 2.40 | 0.30 | 3. |
| Мертвая гадзіна . . . . . . . | 3. | 1.30 | 4.30 |
| Вольная гадзіна (купанне у жаркія дні) . . . . . . . . . . | 4.30 | 0.30 | 5. |
| Поўднік . . . . . . . . . . . . | 5. | 0.15 | 5.15 |
| Гульні, экскурсіі, грамадская праца . . . . . . . . . . . | 5.15 | 2.15 | 7.30 |
| Падрыхтоўка да вячэры . . . | 7.30 | 0.15 | 7.45 |
| Вячэра . . . . . . . . . . . . . | 7.45 | 0.30 | 8.15 |
| Ціхія заняткі, гульні (настольн.) гульня-чытанка . . . . . . . | 8.15 | 1.00 | 9.15 |
| Лінейка, спуск флага . . . . . | 9.15 | 0.10 | 9.25 |
| Падрыхтоўка да сну, мыццё ног, мыццё зубоў . . . . . . . . | 9.25 | 0.30 | 9.55 |
| Адыход да сна: . . . . . . . | 10. | 9.50 | 7.30 |

# РЭЖЫМ

Акцябрацкага лагеру.

| Назва і змест працэдур | Пачатак | Працяг | Канец |
|---|---|---|---|
| Сігнал „Пабудка“ . . . . . . . | 8.00 | 0.10 | 8.10 |
| Зарадка, уборка ложкаў, умыванне, чыстка зубоў . . . . | 8.10 | 0.50 | 9.00 |
| 1-е снеданне . . . . . . . . . . | 9.00 | 0.20 | 9.20 |
| Уздым флага, аб'ява аб распарадку дню . . . . . . . . | 9.20 | 0.15 | 9.35 |
| Амбулаторны прыём . . . . . | 9.35 | 0.25 | 10.00 |
| Гадзіна працы, прагулка . . . | 10.00 | 1.00 | 11.00 |
| Сонечныя ванны, абліванне, абціранне . . . . . . . . . . . | 11.00 | 0.45 | 11.45 |
| Адпачынак у цяні . . . . . . . | 11.45 | 0.15 | 12.00 |
| 2-е снеданне . . . . . . . . . . | 12.00 | 0.15 | 12,15 |
| Масавая клубна-акцябрацкая праца у цяні . . . . . . . . | 12.15 | 1.00 | 1.15 |
| Падрыхтоўка да абеду . . . . | 1.15 | 0.15 | 1.30 |
| А б е д . . . . . . . . . . . | 1.30 | 0.30 | 2.00 |
| Падрыхтоўка да мертвай гадзіны | 2.00 | 0.30 | 2.30 |
| Мертвая гадзіна . . . . . . . | 2.30 | 1.30 | 4.00 |
| Уборка ложак, прагулка, купанне . . . . . . . . . . . . | 4.00 | 1.00 | 5.00 |
| Чай, поуднік . . . . . . . . | 5.00 | 0.15 | 5.15 |
| Вольная гадзіна . . . . . . . | 5.15 | 1.30 | 6.45 |
| Грамадская праца, падрыхтоўка да вячэры . . . . . . . . . | 6.45 | 0.15 | 7.00 |
| В я ч э р а . . . . . . . . . | 7.00 | 0.20 | 7.20 |
| Бяседы, касцер, маларухавыя гульні . . . . . . . . . . | 7.20 | 1.00 | 8.20 |
| Спуск флага . . . . . . . . . | 8.20 | 0.10 | 8.30 |
| Падрыхтоўка да сна . . . . . | 8.30 | 0.30 | 9.00 |
| С о н . . . . . . . . . . . . . | 9.00 | 11.00 | 8.00 |

# РЭЖЫМ

## Агульналагернай групы

| Назва і змест працэдур | Пачатак | Працяг | Канец |
|---|---|---|---|
| Сігнал „Пабудка“ . . . . . . . | 7.00 | 0,10 | 7.10 |
| Гімнастыка і зарадка. Уборка ложак; ранішні туалет . . . . | 7.10 | 1. | 8.10 |
| Падрыхтоўка да снедання . . | 8.10 | 0.15 | 8.25 |
| Снеданне . . . . . . . . . . . . | 8.25 | 0.30 | 8.55 |
| Уздым флага, аб‘явы аб парадку дню . . . . . . . . . . . . | 8.55 | 0.10 | 9.05 |
| Амбулаторны прыём, падрыхтоўка да працы па заданнях . . | 9.05 | 0.20 | 9.25 |
| Праца па заданнях . . . . . . | 9.25 | 1. | 11.00 |
| Падрыхтоўка да сонечных ванн. | 11.00 | 0.20 | 11.20 |
| Сонечныя ванны, купанне . . . | 11.20 | 0.45 | 12.05 |
| Адпачынак у цяні . . . . . . | 12.05 | 0.30 | 12.35 |
| Вольная гадзіна . . . . . . . . | 12.35 | 0.15 | 12.50 |
| Падрыхтоўка да абеду . . . . | 12.50 | 0.15 | 1.05 |
| А б е д . . . . . . . . . . . . | 1.05 | 1. | 2 05 |
| Падрыхтоўка да мертвай гадзіны . . . . . . . . . . . . | 2.05 | 0.30 | 2.35 |
| Мертвая гадзіна . . . . . . . . | 2.35 | 1.00 | 3.35 |
| Пабудка, уборка ложак, падрыхтоўка да чаю . . . . . . . . | 3.35 | 0.25 | 4.00 |
| Чай (поўднік) . . . . . . . . . | 4.00 | 0.15 | 4.15 |
| Клубны час, экскурсіі, агульнаграмадз. праца . . . . . . . | 4.15 | 3.15 | 7.30 |
| Падрыхтоўка да вячэры . . . | 7.30 | 0.30 | 8.00 |
| В я ч э р а . . . . . . . . . . | 8.00 | 0.30 | 8 30 |
| Касцер, бяседы, ціхія заняткі . | 8.30 | 1.00 | 9.30 |
| Спуск флага . . . . . . . . . . | 9.30 | 0.10 | 9.40 |
| Падрыхтоўка да сна . . . . . | 9.40 | 0.20 | 10.00 |
| С о н . . . . . . . . . . . . | 10.00 | 9.00 | 7.00 |

Фізкультура праводзіцца пад кіраўніцтвам спец. персаналу па заранеей выпрацаванай ЦДД схэме. Ранішняя зарадка ад 7 да 10 *м.*, абавязковая для ўсіх дзяцей, праводзіцца па наступнай праграме:

1. Адвод і ўздым рук верх—удох, спуск рук—выдох.
2. Рукі ў плячох. Рукі ў бок
3. Пад прыседы.
4. Прыседы, рукі наперад.
5. Качанне ног уперад і назад.
6. Рубка дроў.
7. Уклоны рук за затылак. Выкідванне рук наперад, формы бокс.
8. Падскокі, для аслабленых—уздым на носках.
9. Хлопкі над галавой, наўперад, за спіной.
10 Упражненне „ласточка".
11. Качаннне тулава, галавы, форма „насос".

Спартыўныя гульні намечаны наступныя: волей бол, гарадкі, крокет. Гульні настольныя: шахматы, шашкі, пінг-понг і іншыя. Гульні рухавыя, звязаныя з экскурсіямі і ваеннымі гульнямі. Гульні малай нагрузкі.

Гімнастыка: адзін раз у пяцідзёнку праводзяцца пагрупна: Страявыя і парадковыя рухі, рухі вольныя, прастыя і з флажкамі, устройства пірамід.

Скокі калектыўныя: яблочка, лязгінка, балгарка, кракавяк і г. д. У мэтах правільнага скарыстання ўсіх відаў фізвыху і прыроды, сонца, паветра і вады, мы пры аглядзе піанэраў падзяляем іх на тры групы: 1). аслабленыя, але ўстойлівыя. 2) сярэдняй устойлівасці і 3) слабыя няўстойлівыя. Для двух апошніх груп вызначаюцца спецыяльныя абмежванні ў бок карыстання сонечнымі ванамі і купаннем, а таксама дадатковых фізкультупражненняў і форм гульняў. На кожнай картцы маюцца адзнакі „Ф" (фізкульт) плюс, мінус, абмежавана. „С" (сонца) плюс, мінус, абмеж. „К" (купанне) плюс, мінус, абмеж.

Такім чынам фізкультурнік, сястра і піанэрпрацаўнік заўсёды будуць у курсе спраў паказанняў і супроць—паказанняў індывідуальна для кожнага дзіцёнка.

---

# ХАРЧАВАННЕ У ЛАГЕРАХ

**Распрацавана Інстытутам АЗД і П—АМД**

У аснову лагернага харчавання павінны быць палажаны наступныя прынцыповыя моманты:

**1. Харчы павінны быць поўнацэнны**, з добраякасных і свежых прадуктаў, маючых належную колькасць і спрыяючы састаў бялкоў, тлустаў і вугляводаў . Узроставыя асаблівасці дзяцей патрабуюць больш увагі на вугляводы для 7-10 гад. узросту і на бялкі з 12—15 г. узросту. Але, разам з гэтым, мы павінны улічваць, што большасць дзяцей, накіроўваемых у санаторн. лагеры, аслаблены часта ў сувязі з інтоксікацыяй, і пагэтаму тлусты павінны адыгрываць тут спецыяльную ролю.

**2. Насышчаны калёраж:** для 1 групы—ад 8 да 11 год—3000 калорый, якія складаюцца з 100 бялкоў, 70—тлустаў і 500 вугляводаў.Для другой групы, ад 12—15 год, мы ставім 3500 калорый, якія складаюцца з 120 бялкоў, 110 тлустаў і 500 вугляводаў.[1])

3. Прадукты павінны прайсці правільную кулінарную апрацоўку, з тым, каб атрымаліся смачныя блюды, добраякасныя па зместу і ў належным выглядзе. Адным з асноўных момантаў правільнай апрацоўкі прадуктаў з'яўляецца захаванне мінеральных салей у страве і наліччa непарушаных вітамінаў, асабліва тэрмслябільных. Апошнія аднаўляюцца шляхам дадатку к налітаму супу соку ад гародніны, ягад, смятаны. Падліўка з сырых жаўткоў з малаком у кашу, гародніну і суп пюрэ павышае спажыўнасць, смак і усваяемасць.

4. Перавага шчолачнасці у харчах гарантуе поўнасцю асваенне вітамінаў. Арыентацыя на шчолачнасць і кіслотнасць у харчах магчыма зрабіць, прыблізна, такім чынам. Тое, што атрымліваецца з агароду і саду (зеляніна, корнеплоды, ягады і фрукты)—шчолачна. Усе, што з поля (злакі, крупа)—кіслотна, і кіслотнасць даходзіць ад 7 да 10. Што ад жывёлы (мяса, яйкі, ікра, рыба)—вельмі кіслотна: ад 20-55; выключэнне дае малако. Такім чынам, калі у страве прэваліруюць крупа, мяса, яйкі і манна, гародніна і земляніна, асабліва свежыя, дзеці атрымліваюць кіслотную страву. Хаця па Ноордену белковы буфер аднаўляе роўнавагу паміж кіслотнымі і шчолачнымі прадуктамі, але-ж трэба улічваць важнасць скарыстання летніх сезонных прадуктаў—гародніны і садавіны для спрыяючай стравaванню і ўсваяемасці вітамінаў перавагі шчолачнасці.

---

[1]) Ніжэй паданае меню застаецца тое самае, акрамя 2-га снедання і для масавых лагераў.

5. Рознастайнасць у страве стварае усебаковы падачу розных мінеральных салей да арганізма дзіцяці, і таму трэба звярнуць асаблівую увагу на рознастайныя блюды.

6. Акуратнасць і своечасовасць з'яўляюцца гарантыяй правільнага кармлення асабленага дзіцяці, і адсюль—гасп. апарат і кухня павінны стаяць на належнай вышыні.

7. Хаванне прадуктаў у летні час патрабуе спецыяльнай увагі ад урача.

**Ніжэй даем меню на 9 дзён з іх калорыйнай цэннасцю і хімічным саставам.**

## Нормы, даныя НКАЗ і ЦК ЛКСМБ на 1934 год

Нормы у грамах на 1 дзень

| | Санат. лагер | Масавы лагер | Пляцоўка санат. |
|---|---|---|---|
| Хлеб ржаны | 200 | 300 | 200 |
| „ белы | 300 | 200 | 200 |
| Мука пшанічная | 16 | 16 | 10 |
| „ картафляная | 10 | 10 | 6 |
| Крупа і бабы | 66 | 66 | 55 |
| Рыс | 10 | 6 | 6 |
| Макароны | 15 | 10 | 10 |
| Бульба | 400 | 400 | 200 |
| Гародніна | 250 | 250 | 250 |
| Фрукты і ягады свежыя | 200 | 150 | 100 |
| Цукар | 75 | 60 | 20 |
| Маргарын | 10 | 10 | 10 |
| Масла расліннае | 5 | 3 | 5 |
| Масла слівачнае | 30 | 15 | 20 |
| Мяса і мясныя прадукты | 100 | 60 | 60 |
| Рыба | 150 | 100 | 75 |
| Малако | 600 | 400 | 300 |
| Твораг | 30 | 30 | 30 |
| Яйкі | 1 | 1 | 0,5 |

НК Аховы здароўя БССР *Сільвестраў*

Сакратар ЦК ЛКСМБ *Стукалаў.*

# 1-ы ДЗЕН

| | Страва | Прадукт | Колькасць | Бялкі | ...ыры | Вугляводы | Калор. 70% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **СНЕДАННЕ** | | Кофе | 0,003 | | | | |
| | | Калач | 0,200 | 14—70 | 0,78 | 94,[illegible] | 454,0 |
| | Кофе з маслам. | Масла | 0,010 | 0,010 | 0,17 | — | 76,38 |
| | Калач з маслам і сырам | Малако | 0,100 | 3,27 | 3,31 | 3,13 | 65,0 |
| | | Сыр галанд. | 0,015 | 3,79 | 4 49 | 0,45 | 59,0 |
| | | Сахар | 0,020 | — | — | 0,20 | [illegible] |
| | | | | | Усяго калор. | | 734,38 |
| **2-е СНЕДАННЕ:** | | Яч. крупа | 0,050 | 5,33 | 1,30 | 31,35 | 161,1 |
| | | Масла | 0,010 | 0,010 | 8,17 | — | 76,38 |
| | Каша—размазня | Малако | 0,025 | 0,82 | 0,83 | 0,98 | 16,2 |
| | | | | | Усяго калор | | 253,68 |
| **АБЕД:** | | Мяса —косці | 0,075 | | | | |
| | | Картоф. | 0,200 | 2,2 | 0,24 | 27,98 | 126,0 |
| | Картафляны суп. | Морква | 0,050 | 0,28 | 0,7 | 2,85 | 13,5 |
| | Беф—строг. з макаронамі | Масла | 0,010 | 0,010 | 8,17 | — | 76,38 |
| | | Малако | 0,025 | 0,82 | 0,83 | 0,98 | 16,2 |
| | Кісель | Мяса | 0,100 | 15,95 | 3,10 | — | 94,2 |
| | | Жыр | 0,020 | 0,005 | 15,0 | — | 175,1 |
| | | Лук | 0,010 | 0,137 | 0,007 | 1,78 | 7,96 |
| | | Макароны | 0,075 | 6,93 | 0,040 | 55.06 | 257 55 |
| | | Ягады св. | 0.100 | 0 24 | 0,22 | 4,32 | 20,7 |
| | | Сахар | 0,015 | — | — | 15 | 60 |
| | | Мука карт. | 0,010 | 0,08 | — | 7,32 | 30,348 |
| | | Хлеб | 0,200 | 11,72 | 1,22 | 84 40 | 404,14 |
| | | | | | Усяго калор. | | 1292,07 |
| **ПОЎДНІК:** | | Пячэнне | 100,0 | 9,3 | 3,0 | 64,08 | 328,8 |
| | | Чай | 0,005 | | | | |
| | Пірог. Чай. | Канфекты | 0,025 | | | 27,01 | 96,4 |
| | | | | | Усяго калор. | | 425,2 |
| **ВЯЧЭРА:** | | Рыба | 0,100 | 9,29 | 0,29 | — | 40,7 |
| | | Мука | 0,010 | 0,93 | 0,46 | 7,7 | 32,2 |
| | Сырнікі са смятанай | Масла | 0,010 | 0,10 | 8,17 | — | 76,38 |
| | Малако з калачом | Малако | 0,150 | 4,9 | 4,96 | 5,89 | 97,5 |
| | | Крупа | 0,030 | 1,2 | 0,15 | 13,0 | 58,0 |
| | | | | | Усяго калор | | 304,78 |
| | | УСЯГО ЗА СУТКІ | | 78,31 | 58,76 | 391,02 | 2858,95 |

